РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 67 (7880) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА. 30 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

У РАЙВЫКАНКАМЕ

## Збожжа ў лік дзяржзаказу

28 жніўня ў райвыканкаме былі разгледжаны пытанні аб завяршэнні ўборкі збожжавых культур і продажу збожжа дзяржаве, арганізацыі сяўбы азімых, аплаце за нафтапрадукты, пагашэнні крэдытаў і іншыя. Сярод запрошаных – кіраўнікі калгасаў, райсельгасхарчу, раённых арганізацый і служб, старшыні сельскіх Саветаў.

Па прапанове старшыні раённага выканаўчага камітэта Міхаіла Барысава ўдзельнікі пасяджэння павіншавалі кіраўнікоў калгасаў "Радзіма" і "Дуброва" Анатоля Краўчанку, Уладзіміра Казлова з заканчэннем жніва. Гэтыя гаспадаркі першымі ў раёне справіліся з уборкай збажыны.

З інфармацыяй аб ходзе палявых работ, паставак прадукцыі, вырашэнні пытанняў разлікаў, выплаце зарплаты выступіў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік сельгасупраўлення Віталь Грышанаў. Ён сказаў, у прыватнасці, што дзяржзаказ па пастаўцы зерня раёнам выкананы на 64 працэнты. Яшчэ і палавіны збожжа па дагаворах не адправілі нарыхтоўшчыкам калгаса "Кранштат", "Ленінскі шлях".

Аналізуючы ход сяўбы, В. Л. Грышанаў адзначыў яе нізкія тэмпы. Па яго словах, гэта кампанія на грані зрыва. Сяўба вядзецца па свежаўзаранай глебе, без запраўкі ўгнаеннямі. Вельмі марудна ідзе ворыва, асабліва ў калгасах імя Калініна, "Праўда", імя Карла Маркса. Між іншым, тэрмін завяршэння асноўнай апрацоўкі глебы – 1 верасня.

Пачата падрыхтоўка ферм да зімы. Аднак, работы вядуцца не актыўна. Патрэбна дапамога гараджан. Калектывам прадпрыемстваў, арганізацый дадзены даручэнні.

Яшчэ шмат на палях кукурузы. Асабліва ў калгасах "Новы быт", імя Калініна і некаторых іншых. Трэба, каб корманарыхтоўчыя атрады, гаспадаркі вялі гэту работу больш арганізавана.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык звярнуў увагу старшынь сельвыканкамаў і гаспадарнікаў на паляпшэнне арганізацыі закупу малака ў насельніцтва. Калгасы павінны выдзеліць камбайны для ўборкі збожжавых на прысядзібных участках вяскоўцаў і наладзіць кантроль, а таксама сена для кароў. Райвыканкам заслухаў тлумачэнні старшынь калгасаў імя Калініна Людмілы Пратасавай, "Кранштат" – Аляксандра Нікалаенкі, "Расія" — Радзіка Алісултанава, "Новы быт" — Віталя Шышова, "Новае жыццё" – Аляксандра Амельчанкі, "Забычанне" – Рыгора Чэпікава, "Ленінскі шлях" – Мікалая Таўпекі. Ім дадзены кароткі тэрмін для выканання планаў продажу збожжа дзяржаве. Вырашана падвесці вынікі па рэалізацыі зерня, іншых патрабаванняў на чарговым пасяджэнні раённага выканаўчага камітэта 30 жніўня г.г. і прыняць неабходныя меры.

## Вясковыя справы напярэдадні восені

Пачынаючы селектарную нараду на мінулым тыдні, старшыня аблвыканкама М. У. Дражын сказаў, што яе правядзенне выклікана неабходнасцю. У гаспадарках вобласці нізкія тэмпы палявых работ. Наступілі тэрміны сяўбы азімых культур, але не ўсе пачалі яе. Падрыхтоўка ферм да зімы ідзе нездавальняюча. Адказнасць за ўсё гэта нясуць кіраўнікі гаспадарак, якія павінны своечасова вырашаць узнікаючыя пытанні.

Палі, тэрыторыі населеных пунктаў зараслі пустазеллем. Губернатар даў тэрмін два тыдні і папярэдзіў старшынь сельскіх Саветаў: калі яны не навядуць парадак, будуць пакараны або вызвалены ад займаемых пасад.

М. У. Дражын прапанаваў старшыням райвыканкамаў адказаць на некалькі канкрэтных пытанняў, што датычаць завяршэння ўборкі, валавога збору зерня і яго рэалізацыі, падрыхтоўкі да азімай сяўбы і яе правядзення, вытворчасці малака і мяса ў наступных месяцах года, выплаты зарплаты калгаснікам.

У сваім выступленні намеснік старшыні аблвыканкама, старшыня аблсельгасхарчу П. А. Кандратаў не толькі прааналізаваў сітуацыю, а і паставіў перад кіруючымі кадрамі раёнаў, гаспадарак неадкладныя задачы. Нагадаем некаторыя з іх, паколькі яны датычаць, безумоўна, і работнікаў аграпрамысловага комплексу раёна.

Колькі б гектараў збожжавых культур у калгасах не засталося яшчэ ўбіраць, трэба завяршыць гэту работу да 1 верасня. Нельга мірыцца са стратамі зерня. Неабходна рэгуляваць, чысціць, рамантаваць камбайны, што дасць магчымасць іх зменшыць. Забаронена спісваць нізкаўраджайныя, засмечаныя ўчасткі збожжавых культур.

(Працяг на 2 стар.)

## КАНФЕРЭНЦЫЯ НАСТАЎНІКАЎ





У мінулую суботу ў раённым цэнтры культуры адбылася традыцыйная жнівеньская нарада настаўнікаў. Былі запрошаны і прысутнічалі кіраўнікі школ, дзіцячых дашкольных устаноў, настаўнікі і выхавацелі, старшыні калгасаў і сельскіх Саветаў, прадстаўнікі арганізацый горада.

У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Генадзь Дылян, старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў, начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Валерый Багданаў, старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык, памочнік намесніка старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Валянцін Сімірскі, намеснікі старшыні і члены раённага выканаўчага камітэта.

Вёў канферэнцыю намеснік старшыні райвыканкама Віктар Сугака. Ён прадставіў гасцей, назваў парадак работы.

Канферэнцыя аб'яўляецца адкрытай. Выкананы Дзяржаўны гімн.

На канферэнцыі разгледжана пытанне аб выніках работы педагагічных калектываў раёна ў 1999-2000 навучальным годзе і шляхах удасканалвання вучэбна-выхаваўчага працэсу. Даклад зрабіў загадчык аддзела адукацыі райвыканкама Віктар Шведаў. Дырэктар сярэдняй школы № 1 Надзея Лебедзева ў сваім выступленні падзялілася некаторымі поспехамі, назвала асноўныя напрамкі работы, прасіла міністэрства дапамагчы ў вырашэнні вострых праблем. Першы сакратар райкама грамадскага аб'яднання БПСМ Віктар Бурака расказаў аб праводзімай у раёне маладзёжнай палітыцы, шляхах яе ўдасканальвання, выхаванні патрыятызму, высокіх маральных якасцей маладых людзей.

Цікавым, глыбока прафесіяналым было выступленне намесніка міністра адукацыі краіны Генадзя Дыляна. Ён гаварыў аб перспектывах школьнай рэформы, важнейшых задачах у галіне адукацыі. Начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі Валерый Багданаў адзначыў, што райвыканкам клапоціцца аб педагогах, выдзеліў ім жылля больш, чым зроблена ў іншых раёнах вобласці. Ён станоўча ацаніў дзейнасць аддзела адукацыі, калектываў школ па ўмацаванню сувязяў з прадпрыемствамі, арганізацыямі. Гэта дае добрыя вынікі.

З цёплымі словамі прывітання да педагогаў, усіх удзельнікаў нарады звярнуўся старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў. Сістэма адукацыі, заўважыў ён, адыгрывае рашаючае значэнне, паколькі рыхтуе кваліфікаваных спецыялістаў, садзейнічае эканамічнаму росту, паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу. Нашым настаўнікам, кіраўнікам ёсць над чым працаваць, бо жыццё выпучае новыя пытанні, на якія неабходна адказваць практычна.

На канферэнцыі выступіў памочнік намесніка старшыні Палаты прадстаўнікоў парламента Валянцін Сімірскі.

Раённы педагагічны калектыў сёлета папоўніўся. У школы прыйшлі працаваць 14 маладых спецыялістаў. Аб гэтым паведаміла намеснік загадчыка аддзела адукацыі Святлана Церахава. Яна павіншавала іх з першым навучальным годам, пажадала плённай працы. Ад імя ўдзельнікаў канферэнцыі маладых педагогаў віталя вопытная выкладчыца Муравільскай СШ Тамара Сазонава. Ім былі ўручаны кветкі, кнігі. Са словам у адказ па даручэнню сваіх калег выступіла новая настаўніца Бароньказскай сярэдняй школы Алена Коршунава.

Многія ўдзельнікі канферэнцыі, у тым ліку – адказныя работнікі райвыканкама, педагогі былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі, каштоўнымі падарункамі Міністэрства адукацыі, аблвыканкама і райвыканкама, абласнога ўпраўлення і раённага аддзела адукацыі. Віншаванні педагогам-ветэранам уручыў старшыня райкама галіновага прафсаюза Аркадзь Шкробаў.

Для прысутных далі канцэрт прафесіянальныя артысты з г. Мінска.





**На здымках: у ганаровым прэзідыуме; загадчык аддзела адукацыі райвыканкама Віктар ШВЕДАЎ уручае кнігі маладому педагогу; на сцэне – артысты з Мінска. Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

### Звесткі

**аб сяўбе азімых культур па стану на 28 жніўня г.г. Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – графік сяўбы, трэцяя – пасеяна (га)**

| | | |
|---|---|---|
| "Прагрэс" | 294 | 110 |
| "Расія" | 188 | 100 |
| "Лен. шлях" | 140 | 90 |
| "Забычанне" | 154 | 80 |
| "Радзіма" | 168 | 75 |
| "Новы быт" | 273 | 74 |
| "Пар. камуна" | 196 | 67 |
| "Дуброва" | 273 | 60 |
| "Новае жыццё" | 169 | 60 |
| імя Калініна | 154 | 40 |
| імя К. Маркса | 266 | 30 |
| "Кранштат" | 178 | 20 |
| "Праўда" | 140 | 15 |
| "Смолькі" | 133 | — |
| "Бароньки" | 210 | -- |
| **ПА РАЁНУ:** | **2938** | **821** |

**1 сентября – День знаний**

# УЧЕБНЫЙ ГОД НАЧИНАЕТСЯ В АВГУСТЕ

Образование сегодня всё больше воспринимается как средство саморазвития человека и в первую очередь – учителя. Уметь проанализировать результативность своей работы, выявить причины неудач и определить пути их решения – вот что чрезвычайно важно для педагога. Именно с этой целью ежегодно тысячи учителей начинают свой учебный год с участия в работе августовских секций.

С 23 августа на базе СШ № 2 города работали секции педагогов нашего района. В течение недели директора и завучи, учителя и воспитатели, социальные педагоги и педагоги - психологи подводили итоги своей работы за прошедший учебный год и наметили перспективы на будущее.

В чем смысл учения в школе? Что значит "высокий уровень" урока? Как добиться эффективной организации обучения и воспитания в школе? Вот те вопросы, которые волнуют учителей сегодня.

Как показывают наблюдения, большое количество школьников сегодня учиться не хотят, но почти все они хотят всё знать. Как заинтересовать школьника учебой, сделать ее интересной и увлекательной, а самое главное посильной для каждого ученика? Это тема, которой касались во время работы секций многие учителя.

Реформа общеобразовательной школы требует новых подходов в вопросах обучения и воспитания. Сегодня недостаточно того, чтобы дать ученику как можно больше знаний. Гораздо важнее научить его самостоятельно добывать эти знания, научить творческой деятельности, умению применять свои знания и навыки на практике. Но это лишь одна сторона образования. А кто научит ребенка сотрудничеству, принятию решений, расчёту собственных сил, ответственности, самоконтролю? Об этом сегодня думают многие педагоги.

Новое содержание образования требует и нового подхода в обучении и воспитании, поэтому такое большое внимание уделялось учителями вопросу внедрения в практику работы современных образовательных технологий. Многие педагоги наших школ уже используют их в своей работе, что позволяет сделать урок более эффективным.

Существует педагогическая аксиома, нет и не может быть универсальных методов, которые у любого учителя в любом классе и по любому предмету автоматически обеспечивают успех. Педагогика урока – дело творческое, личностное. Но вместе с тем у каждого опытного учителя накопилось немало предложений, связанных с использованием активных методов преподавания. Большое внимание в ходе работы секций было уделено вопросам стандартизации образования. Все учителя были ознакомлены со структурой стандарта по предмету.

Августовские встречи учителей – это возможность поделиться имеющимся опытом, почерпнуть что-то новое, спланировать свою работу на текущий год, попробовать разрешить наболевшие проблемы.

**Елена СИРОТКИНА,**
**заведующая методическим кабинетом районного отдела образования.**

# ВЯСКОВЫЯ СПРАВЫ НАПЯРЭДАДНІ ВОСЕНІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)**

Насенныя фонды не ўсюды створаны. Неабходна падрыхтаваць насенне азімых для сяўбы да 1 верасня.

Не пазней, чым 20 верасня, павінна быць завершана сяўба жыта, 5 – азімай пшаніцы. Ёсць адставанне па ворыву глебы, унясенню арганічных і мінеральных угнаенняў, гербіцыдаў. На палях шмат няўбранай саломы. А гэта перашкаджае весці іх апрацоўку. Салома патрэбна як грубы корм.

Дарэчы, кармоў на зімоўку нарыхтавана пакуль менш, чым летась. Ёсць неабходнасць убраць травы другім укосам. Пад кукурузай у вобласці занята 63 тысячы гектараў, або ў 1,5 раза больш мінулагодняй плошчы. Важна выкарыстаць гэты рэзерв.

Размова ішла аб продажу збожжа ў лік дзяржзаказаў і для пагашэння запазычанасці перад пастаўшчыкамі паліва і іншымі. Доўг тут яшчэ вялікі.

Значная плошча занята бульбай. Чакаецца лепшы, чым летась, ураджай. Трэба падрыхтавацца і ўбраць яго. Клубні могуць быць абменены на насенне кукурузы.

Прыкладна праз два месяцы закончыцца пашавы перыяд. Па-ранейшаму надзённай задачай з'яўляецца пераадоленне адставання вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі і яе павелічэнне. Важна зараз атрымаць як мага вышэйшыя надоі малака і прывагі жывёлы і потым. У кожным калгасе неабходна як след падрыхтаваць фермы да зімоўкі. Не ўсе гаспадаркі здолелі аднавіць пагалоўе. Таму прадстаіць павялічыць колькасць жывёлы на фермах. З гэтай мэтай варта палепшыць племянную работу, узнаўленне статка. Сваю ролю павінны адыграць племстанцыі, спецыялісты і жывёлаводы калгасаў. Праца ж тэхнікаў-асемянатараў аплачваецца слаба.

Сродкі, выдзеленыя на закуп цялят у насельніцтва, выкарыстаны не поўнасцю. Трэба закупіць маладняк на падворках вяскоўцаў. Патрабуе актывізацыі нарыхтоўка малака ў прыватным сектары. Неабходна без спазнення аплачваць прынятую прадукцыю.

П. А. Кандратаў закрануў пытанні будаўніцтва, асваення сродкаў. Ён гаварыў таксама аб ліквідацыі запазычанасці па зарплаце, назваў тэрміны.

На нарадзе былі заслуханы тлумачэнні старшынь райвыканкамаў вобласці. Ім дадзены адпаведныя ўказанні.

Дакладваючы аблвыканкаму аб ходзе спраў у раёне, старшыня раённага выканаўчага камітэта М. Р. Барысаў паведаміў, што жніво праз некалькі дзён закончыцца. Валавы збор збожжа сёлета складзе 25 тысяч тон. Ураджай мог быць большым, аднак нямала страчана зерня на вельмі заросшых пустазеллем палях у час уборкі. Недабор дапушчаны і па тэхналагічных прычынах. Да 1 верасня раён завершыць продаж зерня дзяржаве.

Усе калгасы прыступілі да сяўбы азімых. Вось толькі не хапае ядахімікатаў.

Робяцца захады па выплаце зарплаты калгаснікам за мінулыя месяцы. Выдача закончыцца да канца жніўня. Дзяржаўныя прадпрыемствы не аплацілі за прынятую сельгаспрадукцыю вялікія сумы грошай.

Закуп малака і цялят вядзецца лепш, чым летась. І ўсё ж ёсць недахопы, яны ўхіляюцца.

Пасля завяршэння абласной нарады, старшыня райвыканкама выказаў заўвагі кіраўнікам калгасаў, раённых служб у сувязі з выяўленымі недахопамі ў іх рабоце. Асобныя калгасы збіраюць па 5-10 цэнтнераў збожжа на гектары. Да таго ж яго не прыходуюць. Уборку зацягваюць. Недастатковыя тэмпы сяўбы азімых.

Далёка не на ўсіх фермах наведзены санітарны парадак. Шмат памяшканняў, абсталявання трэба рамантаваць. Гарадскія калектывы тут павінны дапамагчы вяскоўцам.

М. Р. Барысаў патрабаваў ад гаспадарнікаў абавязковага выканання дзяржзаказа па пастаўцы збожжа, правядзення аплаты за атрыманае паліва.

*Поиск. Предприимчивость. Инициатива*

# СНОВСКИЕ УРОКИ

В каждом районе республики есть свои "маяки". На их показатели равняются, перенимают передовой опыт. Одни славны высокими урожаями, другие – успешным ведением животноводства, третьи – тем, что вписались в рынок, имеют хорошо развитые перерабатывающие цеха. А вот агрокомбинат "Снов" славен тем, что все до единой отрасли сельского хозяйства рентабельны. Пока этим похвалиться могут, увы, не многие. При всех погодных аномалиях "Снов" нынче в среднем намолачивает с гектара по 68 центнеров зерна, за семь месяцев надоил от коровы 3780 килограммов молока, отправил в свои фирменные магазины, торговые предприятия Минска, Слуцка, Дзержинска, Несвижа, Копыля и других городов 670 тонн колбасных и других мясных изделий.

Поэтому не зря считают на Беларуси "Снов" школой передового опыта, а его специалистов, и в первую очередь председателя Михаила Корчмита, — мастерами экстракласса.

В один из дней на прошлой неделе одна за другой к конторе "Снова" подошли около полутора десятка легковых автомашин. Гости – руководители ведущих хозяйств всей Минской области, как говорится, "киты" – Николай Василевич из слуцкого "Ленинского пути", Иосиф Плавский из клецкой "Красной звезды", Анатолий Чалдышкин из солигорского "Большевика", Ольга Луцик из столбцовской "Дружбы", Вадим Лойко из узденской эксбазы имени Суворова, Григорий Чуйко из АПК "Ждановичи", Иван Малюжиц из копыльского "Семежева", Леонид Чижик из дзержинского "Крутогорья" и другие руководители, чьи имена на слуху даже в республике.

Привела их сюда в такую горячую пору жатвы просьба председателя облисполкома Николая Домашкевича. Когда все разместились в зале, губернатор сразу же извинился перед собравшимися за то, что оторвал их от дела. Но отметил, что вопрос, который нужно решить с лидерами областного АПК, не терпит отлагательства.

— Нынешняя жатва, — заявил Николай Федорович, — дает нам больше хлеба, чем мы ожидали после весенних заморозков и засухи. Но это не должно никого расхолаживать. Давайте вместе подумаем о перспективе дальнейшего развития сельского хозяйства области. У каждого из вас наработан большой опыт ведения производства. И было бы очень правильно организовать широкую школу передового опыта, организаторами которой явитесь вы и ваши соратники. А Михаила Александровича Корчмита, руководителя "Снова", о достижениях которого все вы знаете, попросим показать все достигнутое, обрисовать перспективы и не скрывать вопросы, на которых и здесь пока "спотыкаются".

Суть командировки 19 лучших руководителей хозяйств области стала ясна, когда Николай Домашкевич предложил каждому из них взять "на буксир" один колхоз-середнячок в своем районе и подтянуть его по возможности до своего уровня, а также одно хозяйство, где к руководству пришел молодой председатель. Но брать, естественно, под свою опеку только тех руководителей, из кого можно сделать настоящего хозяйственника.

Таким образом председатель облисполкома надеется "вытянуть" около 70 хозяйств. Шефам обещана полная поддержка в этом деле областных организаций. Кроме того, за наставничество руководителям и их специалистам из бюджета области будут производиться доплаты.

В поездке по сновским полям и фермам каждый "переваривал" в уме предложение Николая Домашкевича. И правильно, враз такой непростой вопрос не решить, все нужно продумать до мелочей. Само собой понятно, что при высоком начальстве как-то не принято высказывать свои сомнения и предложения – не дай Бог не так еще поймут. А вот когда председатель облисполкома и его первый заместитель, начальник облсельхозпрода Владимир Луцкий уехали, начался оживленный обмен мнениями. Высказывались десятки разных вариантов осуществления поставленной задачи. Согласились, что подобрать по два хозяйства для оказания шефской помощи, или, как выразился один из председателей, опекунства, сложностей не составит. А с чего начинать? И как контролировать выполнение своих рекомендаций?

Словом, вопросов непочатый край. Беседа получилась острая, заинтересованная, с полярными мнениями. Ну а нас, журналистов, попросили пока не встревать в это дело. Вот через годик – приезжайте, опишите все как есть и не бойтесь критиковать. Это всем пойдет на пользу.

А вообще-то что мы знаем о "Снове"? К сожалению, очень мало. На страницах любой республиканской газеты бодро пишут о достижениях хозяйства. А о том, каковы их составные, говорим мельком, словно наши читатели сами знают, что к чему. Пора бы какому-то серьезному исследователю по-настоящему глубоко изучить опыт хозяйства, его руководителей и затем в самых авторитетных, самых читаемых средствах массовой информации выдать серию статей обо всем увиденном и услышанном. Уверен, что многие руководители и специалисты колхозов и совхозов задумались бы: а правильно ли сами делают? И попробовали бы делать так, как сновцы.

По нашим белорусским меркам "Снов" – хозяйство огромное. Одной только пашни 4300 гектаров. Нынче зерновыми из них занято 2050 гектаров, сахарной свеклой – 450, картофелем – 100, кукурузой – 500 гектаров. Остальное – травы. И что удивляет: очень малая руководящая "головка". У Корчмита всего один заместитель, за каждую отрасль несет персональную ответственность главный специалист – он настоящий хозяин. В их подчинении агрономы, зоотехники, ветврачи, механики. Характерно, что серьезных эксцессов не бывает – все вопросы решаются совместно, заинтересованно. Ну а главной отраслью в хозяйстве является животноводство: поле работает на 5400 голов крупного рогатого скота, из них – 1520 коров, на 17 тысяч голов свиней, на 1300 голов бройлеров. В прошлом году произвели 5200 тонн молока, от каждой буренки надоили его 5780 килограммов, произвели 5700 тонн мяса. В этом году намечается рост: рассчитывают получить 6 тысяч тонн мяса. Цель, как видно, достигается – в эти дни от каждой коровы надаивают по 17 килограммов молока.

Для вдумчивого читателя этот сухой язык цифр скажет больше, нежели толстая брошюра. Вывод ясен: в деревне Снов и окрестных селеньях живут и работают настоящие хозяева.

С чего началось восхождение на Олимп, не побоюсь этого сравнения, агрокомбината "Снов"? С того, что еще в 1989 году руководители хозяйства, и в первую очередь Михаил Александрович Корчмит, беспристрастно проанализировали, что такое горбачевщина, в какую пропасть она толкает огромную страну. И, кстати, как в воду глядели: выводы сельских специалистов оправдались целиком и полностью. Стали думать, как жить дальше. Решили основные финансовые средства, а они у бывшего колхоза имени Калинина были немалыми, выделить для покупки новейшей техники, особенно хорошо зарекомендовавших себя зарубежных машин. Некоторые начали "бубнить", мол, переплачиваем неведомо за что, могли бы куда дешевле купить российскую технику. Однако вскоре убедились, что Корчмит был прав: первый же немецкий Е-516 оказался вдвое производительнее нашей "Нивы", ну а о потерях за комбайном и говорить не приходится.

Сегодня на полях хозяйства обмолот зерновых ведут четыре "Меги", два "Кейса", а всего 24 комбайна. В нынешнюю жатву здесь проходит испытание последняя разработка германской фирмы "Кейс" комбайн CF-80. Делают его в Лиде. По отзывам механизаторов, эта машина немного слабее "Меги-218", но лучше "Дона". Внимательно следят за испытаниями ее создатели. Согласились, что маловат диаметр шнека, нет делителя, вибрирует кабина. Но вымолачивает чисто. Говорят, включи его в работу на всю мощь – до 100 тонн зерна в день может выдавать из бункера. Да придерживают комбайнера, не дают разогнаться. Тут, правда, есть один нюанс: 100 тонн можно намолотить при высокой урожайности. В "Снове" же намолачивают по 68 центнеров с гектара. Это в среднем. Но, как выразился Корчмит, на отдельных полях "зашкаливало": гектар давал более 100 центнеров зерна!

Куда ни кинься сегодня в хозяйстве – всюду работает импортная техника. Что, "Снов" так богат, что без счета транжирит дорогую валюту? Ну нет уж, здесь умеют считать деньги. Покупают новую технику в основном по лизингу: западные партнеры безоговорочно доверяют Корчмиту. И во всем здесь проявляется коммерческая жилка Михаила Александровича. К примеру, побывали в хозяйстве депутаты Национального собрания, председателей обеих палат – Павла Шипука и Анатолия Малофеева – телевидение засняло на мостике немецкого комбайна. Так руководитель предприятия-изготовителя был на вершине радости: такой рекламы своей машине он не ожидал. И Корчмиту теперь отказа в поставке техники не бывает. Но и с расчетами между партнерами все строго, не подводят друг друга. Так что и мы, оказывается, можем безболезненно вписываться в рынок.

С чего начинается урожай? Правильно, с семян. Для "Снова" заиметь элиту и первую репродукцию лучших районированных сортов любой культуры – не проблема. Более низким репродукциям пути на поля нет. Немаловажно и то, в какую почву лягут эти семена. По сути будущий хлеб начинается и с готовности поля принять эти семена.

Давайте, сельчане, проследим, как обычно готовимся сеять. Вспахали поле, пустили затем РВК или АКШ, а вслед и сеялка идет. Дешево, как говорят, и сердито. А что в итоге? 25-35 центнеров зерна с гектара. В "Снове" делают не так, здесь правит бал отработанная за последний десяток лет технология сева, которая, кстати, ни разу не подвела хозяев – ниже 50 центнеров зерна с гектара не намолачивали. Даже в самые неблагоприятные годы.

Что же такое сновская технология? Сложного в ней вроде ничего нет. Прежде всего, обязательное лущение стерни, чаще всего сразу после ухода комбайна с поля и немедленной уборки соломы. Затем вносится навоз и производится запашка. Сеют только комбинированными агрегатами. Если же обрабатывается под посев участок многолетних трав, то на нем сначала выполняют лущение, потом дискование, внесение органики и запашку. Все просто, да не совсем. Эта технология приводит к тому, что на посевах зерновых сорняки – редкие гости. Лущение провоцирует их семена взойти, а плуг – их уничтожает. Но самое главное – давайте признаемся – целый сонм семян сорняков мы вносим в почву вместе со свежей органикой. Сколько же их в навозе! Ведь в желудках КРС они проходят транзитом, оболочка их крепкая. Стоит попасть такому навозу в поле – семечко даст всходы. Поэтому сновцы взяли за правило: иметь годичный запас органики. С ранней осени, всю зиму во все четыре бригады возят в поле навоз. Складывают не в бурты, а в буртищи по 30-40 тысяч тонн. За лето все перепревает, семена сорняков погибают. Как уже принято в хозяйстве, такую органику приглашают вносить механизаторов райсельхозхимии, припахивают – сами.

Просто? Просто, без больших затрат. Но давайте подумаем: какое хозяйство может позволить себе готовить такую органику? А сновцы решились на это в 1989 году, когда начали реконструкцию ферм. Пришли к выводу, что не дураки были наши деды и прадеды, содержавшие скот на глубокой подстилке. И на всех фермах КРС перешли на это, убрав вымотавшие душу колхозным слесарям скребковые транспортёры.

**(Продолжение на 4 стр.)**

